© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019




Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

28 ліпеня 2000 года
№ 30 (275)
Цана ў розніцу 76 рублёў




## Навіны рэгіёна

### «Зеніт» – узор для Маладзечна?

**МАЛАДЗЕЧНА.** Учора крытычнае становішча на вядучых прадпрыемствах горада – "Спадарожніку" і "Электрамодулі" – было ў цэнтры ўвагі чарговага пасяджэння гарвыканкома. Дастаткова сказаць, што з 1997 года аб'ём вытворчасці на іх знізіўся амаль у два разы. У такой самай прапорцы знізілася і колькасць працуючых і складае сёння на "Спадарожніку" 1790 чалавек. З назначэннем кіраўнікамі прадпрыемстваў **Уладзіміра Шпакава і Івана Драгуна** справы на прадпрыемствах не лепшаюць. Няма дзяржаўнай падтрымкі гэтых заводаў. Цярпенне працоўных калектываў на мяжы.

На "Спадарожніку" выяўленыя факты крадзяжоў. "Ля прадпрыемства" дзейнічае некалькі фірмаў, якія гандлююць прадукцыяй завода, і ў заснавальніках якіх знаходзяцца некаторыя з кіраўнікоў падраздзяленняў прадпрыемства.

Выканкомам прапанавана Міністэрству прамысловасці распрацаваць спецыяльную праграму па заводах "Спадарожнік" і "Электрамодуль". Магчыма, нават з перапрафіляваннем вытворчасці. Звернута ўвага на фінансавую падтрымку. Прыкладам можа стаць вілейскі "Зеніт", дзе адбываюцца вельмі вялікія фінансавыя "ўліванні" з дзяржаўнага бюджэту, дадзеныя льготы ў гаспадарчай дзейнасці.

**Аддзел інфармацыі.**

### Са «Спадарожнікам» судзяцца

**МАЛАДЗЕЧНА.** У гарадскім судзе пад старшынствам суддзі **Сяргея Літвіновіча** слухаецца грамадзянская справа па исках да адміністрацыі радыёзавода "Спадарожнік" шаснаццаці былых яго работнікі.

1 чэрвеня трыццаць сем работнікаў завода былі звольненыя па скарачэнні штата. Семнаццаць з іх не пагадзіліся з тым, як гэтае звальненне прайшло, і абскардзілі дзеянні адміністрацыі ў судзе. Затым адзін іск быў адкліканы заяўніцай. У сераду адбылося першае пасяджэнне суда. Інтарэсы завода ў судзе прадстаўляе начальнік аддзела кадраў прадпрыемства **Уладзімір Баброў**. У першы дзень былі выслуханы бакі. Другое пасяджэнне, калі плануюцца выступленні сведкаў па справе, прызначанае на пятніцу і пачынаецца ў 9.30.

**Аддзел інфармацыі.**

### За 74 мільёны паштальёнам памяняюць дах

**ВАЛОЖЫН.** Да правядзення юбілею горада асноўным установам Валожына надалі больш-менш прывабны выгляд. Але будынак, дзе месцяцца раённыя вузлы паштовай і электрычнай сувязі застаўся непрыбраны. За рамонт узялася адна з маладзечанскіх будаўнічых арганізацый. Да пачатку восені плануецца памяняць дах (са звычайнага, пляскатага, на двухсхільны) і аднавіць фасад.

Гэтае задавальненне абыдзецца раённым вузлам сувязі ў 74 мільёны рублёў.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Круглы стол па-маладзечанску

**МАЛАДЗЕЧНА.** Па прапанове каардынацыйнай рады дэмакратычных сіл Маладзечаншчыны ў гарадскім выканаўчым камітэце новы старшыня выканкома **Мікалай Чурсін** у сераду правеў сустрэчу прадстаўнікоў большасці палітычных партый і грамадскіх арганізацый Маладзечна.

Палітычны спектр партый быў поўны: ад правых да левых. Прадстаўнікі БНФ "Адраджэнне", камуністаў, Аб'яднанай дэмакратычнай партыі, іншых палітычных і непалітычных арганізацый упершыню мелі магчымасць выказвацца па пазіцыях арганізацыі, уносіць прапановы па магчымым супрацоўніцтве, няхай сабе і палярных палітычна арганізацый, на карысць горада. Мяркуецца, што такія сустрэчы будуць ладзіцца і ў будучым.

**Аддзел інфармацыі.**

### Надвор'е на выхадныя

**Субота, 29 ліпеня**

Мінск

14 - 19°С (уначы)
24 - 25°С (удзень)

Вільня

13°С (уначы)
22°С (удзень)

**Нядзеля, 30 ліпеня**

Мінск

14 - 19°С (уначы)
23 - 27°С (удзень)

Вільня

12°С (уначы)
22°С (удзень)

# Злачынства на могілках



Разбітыя надмагільныя пліты на маладзечанскіх могілках.

Фота Юрыя Карпіцкага.

**МАЛАДЗЕЧНА. З панядзелка гараджане пацягнуліся на могілкі – у ноч з 21 на 22 ліпеня невядомыя пашкодзілі 56 магільных пліт. Па факце злачынства ўзбуджаная крымінальная справа па артыкуле 201 (ч. 2) Крымінальнага кодэкса – злоснае хуліганства, учыненае з асаблівым цынізмам.**

Нармальны дарослы чалавек такое наўрад ці зробіць. На першы план выходзяць дзве версіі: злачынцамі з'яўляецца група падлеткаў ці так званыя "сатаністы". Амаль дакладна можна толькі сцвярджаць, што гэта была група, бо адзін–два чалавекі такога не зробяць.

У абедзвюх версіях ёсць слабыя месцы. Калі разглядаць першую, то не ўкладваецца ў разумныя рамкі колькасць пашкоджаных пліт, нават калі ўлічыць найвышэйшую ступень вар'яцтва падлеткаў.

У рамках другой версіі – невядомая заканамернасць разбурэння пліт. "Сярэдняму гледачу" фільмаў пра сатаністаў уяўляецца іншая "тэхналогія". Найперш група на сходзе выбірае ўчыніць нейкі абрад, павінна быць нейкая прычына. У ахвяру прыносіцца нешта канкрэтнае – людзі некарэннай нацыянальнасці, іншага веравызнання, на месцы ахвярапрынашэння павінныя праходзіць абрады, пакідаюцца сляды (разрабаваныя магілы, надпісы на плітах).

Атрымліваецца, тыя "сатаністы" прыйшлі, памахалі крыху кувалдамі (прычым, з розным поспехам: некаторыя помнікі толькі паваленыя, іншыя аднаўленню не належаць) і сышлі проста так?

Акрамя, як вар'яцтвам, гэтага проста так не патлумачыць.

А можа, гэта рэпетыцыя? Тады што чакаць далей, і калі гэтае нешта адбудзецца?

Начальнік следчага аддзела па Маладзечанскім раёне Упраўлення следчага камітэта пры МУС РБ **Анатоль Габрусковіч** сказаў, што версій пакуль шмат і кожная з іх распрацоўваецца. Справа цяпер знаходзіцца ў пракуратуры.

Акрамя маральнага ўрону, тая ноч прынесла некалькім дзесяткам сем'яў матэрыяльныя страты: звычайны помнік каштуе каля 50 тысяч, а ёсць жа і даражэйшыя. Застаецца спадзявацца, што органы правапарадку здолеюць адшукаць злачынцаў. Бо пасля беспакаранай "справы" злачынца не спыняецца. Яго цягне яшчэ нешта ўчыніць, і так працягваецца да таго часу, пакуль не зловяць. Старшыня маладзечанскага гарвыканкома Мікалай Чурсін зазначае, што ў міліцыі ёсць зачэпкі, па якіх злачынцаў знойдуць. Дзіўна, што мала сведкаў – непадалёк жылыя дамы. А той, хто знаходзіўся тады паблізу, падумаў бы, што надышоў канец свету: рыпелі надмагільныя пліты і бушавалі вар'яты.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Экспрэс-апытанне маладзечанцаў

# Ці чулі вы пра злачынства на могілках?



– Нармальны чалавек такога не зробіць. Ну, украсці можна, ну, яшчэ нешта зрабіць. Але ноччу, на могілках .: Відавочна, "паехаў дах". Мяркую, калі злачынцы ўтвораць яшчэ нешта, то, магчыма, іх і злавяць. А так, не ведаю.

**Сяргей Фёдараў, будаўнік**



– Пачула пра злачынства ў панядзелак, калі ехала ў аўтобусе. Здзіўленая, як яны гэта маглі зрабіць, прытым, ноччу, і беспакарана ўцячы. Малаверагодна, што злачынцаў калі–небудзь знойдуць.

**Лілія Стасілевіч, настаўніца**



– Я лічу, што гэта зрабілі п'яныя падлеткі, прытым, яны жывуць у тым раёне. Лічу, іх зловяць. Матыў злачынства? Ад таго, што няма чаго рабіць.

**Раман Касінскі, школьнік**



– Першы раз пра гэта чую. Мяркую, зрабілі злачынства нейкія сектанты. Пяцьдзесят з лішкам помнікаў зламаць – не жарт. Напэўна, іх не знойдуць.

**Сяргей Соніч, электраманцёр**

Фотаапытанне падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

■ НАША ГІСТОРЫЯ

# Жудасны план «трэцяга рэйха»

**Я не прыхільнік новага падзелу свету. Але хачу нагадаць, магчыма, невядомыя для многіх адносна нядаўнія фактычныя і магчымыя інкарпарацыі нашых этнічных беларускіх земляў.**

У 1918 годзе без рады з нашым народам значная частка Беларусі пасля Брэсцкага перамір'я, падпісанага Леніным, была перададзеная кайзераўскай Германіі, а затым, без удзелу беларускай дэлегацыі, у 1921 годзе заходняя частка Беларусі перайшла ў склад Польшчы.

У 1939 годзе пасля сепаратнай дамовы Молатаў—Рыбентроп 17 верасня савецкія войскі занялі яе і аб'ядналі з БССР, што ўваходзіла ў склад СССР. Немцы ж яшчэ раней, 1 верасня, пачалі і захапілі тэрыторыю, што, згодна з падпісанай дамовай, належала ім. Пасля заканчэння паспяховай сумеснай аперацыі, у Брэсце адбыўся ганаровы бальшавісцка—фашысцкі парад.

Трэба зазначыць адну немалаважную акалічнасць: хаця ў Заходняй Беларусі і быў пэўны нацыянальны ўціск, эканамічнае становішча нашых супляменнікаў з усходу, у параўнанні з тутэйшым узроўнем жыцця, было яўна не на іх карысць. Напэўна, з гэтай прычыны пры фармальным аб'яднанні, уключна да вайны дэ—факта між імі існавала мяжа. Улада баялася краху міфа пра заможнае калгаснае жыццё і безнадзейную нэндзу панскай Польшчы. Летам 1940 года пасля савецкай акупацыі краін Балтыі старажытная сталіца Беларусі Вільня і яе край па загадзе Сталіна былі перададзеныя пад юрысдыкцыю Літвы. Аднак нас чакалі і іншыя новыя перадзелы. 22 чэрвеня 1941 года тэрыторыю нашай Бацькаўшчыны акупавалі фашысцкія войскі. Збянтэжаны і запалоханы далейшым наступленнем гітлераўцаў генералісімус прапаноўвае былому палітычнаму саюзніку план новага раздзела. Узамен аб прыпыненні далейшай агрэсіі Германіі, ён пастyпаецца захопленымі Гітлерам тэрыторыямі Украіны, Малдовы і нашай Беларусі. Аднак наступленне гітлераўскіх войскаў ішло паспяхова, і такога кавалка тэрыторыі для Гітлера было вельмі і вельмі мала. Тым больш, што ў яго існаваў іншы план расчлянення Савецкага Саюза, які напачатку 1941 года распрацаваў адзін з яго галоўных ідэолагаў, Альфрэд Розенберг. Менавіта такая копія па раздзеле СССР, якую я ні разу не сустракаў у беларускім друку, перакладзеная на англійскую мову, існуе ў Вашынгтоне ў бібліятэцы амерыканскага кангрэса. Для чытачоў «РГ» я прапаную план—карту.

Закрэсленая штрыхам палоска "Польшча" (туды ўваходзілі разам з Коўна і Вільняй і землі нашага рэгіёна), Бесарабія (Заходняя Украіна і Малдова), а таксама курортныя Крым, Абхазія і Аджарыя павінны былі быць, згодна з Розенбергам, непасрэдна далучаныя да Германіі. Адносную незалежнасць атрымлівалі незаштрыхаваныя тэрыторыі "Вялікай Беларусі", "Вялікай Украіны" і "Вялікага Каўказа", а таксама "Балтыі" (адзіная краіна літоўцаў, латышоў, эстонцаў), акупаваныя нямецкімі войскамі і кіруемыя нямецкім гаўляйтэрам і назначаемым ім мясцовым начальствам. Такую ж "аўтаномію" набывалі Туркестан, Урал, Сібір. Тэрыторыя, зафарбаваная чорным колерам, "Масковія", заставалася рускаму народу і павінна былаператварыцца ў суцэльны канцэнтрацыйны лагер. На ўсіх захопленых гітлераўцамі землях поўнаму знішчэнню падвяргаліся грамадзяне яўрэйскай і цыганскай нацыянальнасці.

Вось такі быў жудасны план "трэцяга рэйха", сарваны вясной 1945 года савецкімі войскамі і іх заходнімі саюзнікамі. Але нашу Беларусь чакала яшчэ адна пасляваенная страта – спрадвечна беларускія этнічныя землі Беласточчыны па загадзе Сталіна перададзены ў склад Польскай Народнай Рэспублікі.

**Алесь ЦАДКО.**




План—карта Альфрэда Розенберга 1941 года.

# Роберт Захарэвіч шукае радню

Роберт Захарэвіч, які нарадзіўся ў Францыі ў 1946 годзе і жыве ў горадзе Нім (Nimes) на поўдні гэтай краіны, шукае сваякоў. Яго бацька, Стэфан (Сцяпан?) Адамавіч, нарадзіўся 3 красавіка 1901 года ў вёсцы Палессе каля Будслава. Маці Роберта, Ганна Залесская, нарадзілася 5 мая 1909 года ў мястэчку Дунілавічы каля Пастаў. У рэдакцыю з дапамогай у пошуках звярнуўся маладзечанец Аляксандр Салагуб, які таксама нарадзіўся ў Францыі ў 1935 годзе і трапіў на радзіму бацькоў толькі пасля завяршэння Другой Сусветнай вайны. На фатаграфіі, якую перадалі яму сябры з Францыі, момант, дзе знятыя землякі ў дзень вяселля Стэфана Захарэвіча і Ганны Залесскай ў 1930 годзе ў французскім горадзе шахцёраў Ales.

Калі каму вядомыя звесткі пра людзей, якіх вы бачыце на здымку, просьба звязацца з рэдакцыяй "РГ". Уся інфармацыя будзе перададзеная Аляксандру Салагубу, а праз яго – Роберту Захарэвічу ў Францыю.

**Мікола ГАЙДУК.**



Фота

Злева направа: сям'я Гушчаў (бацька, сын Іван, жонка), брат Стэфана Захарэвіча, Стэфан Захарэвіч, пад вянцом Ганна Залеская (Захарэвіч), Васіль Марцюх (родам з Даўгінава), Аляксандр Салагуб (бацька), Надзя Марцюх.

# Новая кніжная серыя

**МАЛАДЗЕЧНА. Тут стараннямі энтузіястаў – маладзечанцаў Міхася Казлоўскага, Алеся Капуцкага, Валянціна Герновіча пачалася выдавацца новая кніжная серыя: "Паэзія Віленскага краю".**

Першай выйшла кніга Алы Клемянок "Яны не ведалі мяне". Паэтка жыве ў Смаргоні. Доўгі час працавала ў Маладзечне: у газетах "Приборостроитель", "Наш дзень". Любоўная лірыка, вершы філасофскай накіраванасці склалі аснову першай кнігі серыі і першай кнігі самой паэтэсы.

Другая кніга – творы Хведара Ільяшэвіча, паэта—заходніка, чый лёс трагічна абарваўся ў аўтамабільнай катастрофе у Заходняй Германіі ў 1948 годзе. Сярод вершаў таксама змешчаны і празаічны твор «Танго «Ноктурно». Хаця, яго цяжка назваць прозай. У нерыфмаваных радках апавядання адчуваецца паэтычны талент нашага земляка, застаецца шчымлівасць у сэрцы ад неразгаданасці лёсу гераіні.

На жаль, серыя пакуль не можа пахваліцца вялікімі тыражамі. 299 экзэмпляраў – наклад кнігі Ільяшэвіча. Набыць яе ў свабодным продажы таксама немагчыма. Што не змяншае значнасць самага факта нараджэння новай серыі, як і факта існавання традыцый паэзіі нашага краю, імя якому – Віленшчына.

**Мікола ГАЙДУК.**



Ала Клемянок.

Ала Клемянок

Яны не ведалі мяне...

Вершы

Паэзія Віленскага краю






Хведар Ільяшэвіч.

# Большае выдатнікаў вучобы

**ВАЛОЖЫН. Аддзел адукацыі мясцовага райвыканкама падвёў вынікі мінулага навучальнага года. З 7066 вучняў, выдатнікаў у раёне 839, што складае 12% (летась на ўсе "пяцёркі" скончыў вучобу кожны дзесяты школьнік).**

На "4" і "5" вучацца 2230 чалавек, а для 18 юных валожынцаў навучальны год яшчэ не скончыўся – яны атрымалі заданне на лета.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

## Кінатэатр «Радзіма»

**ліпень Вялікая зала**

28–30 "Як зрабіць з жонкі пачвару", ЗША, камедыя, акрамя асоб да 16 год!!! 20–00, 22–00

"Выратавальнікі-2, або Варяцкі пляж", Аргенціна, камедыя 16–00, 18–00

**Кожную пятніцу, суботу, нядзелю – дыскатэка для малодшых школьнікаў – 17–00**

**для моладзі – 20–00**

У кінатэатры працуе бар, камп'ютэрныя гульні.

## Для дзяцей

28 – "Вясёлыя дзянькі на самым ціхім Захадзе" 13–00

29 – "Бетховен" 13–00

30 – "Бетховен–2" 13–00

■ ДНІ



1 жніўня – **90 год** з дня нараджэння **С. Хацкевіча** (1910–1979), беларускага акцёра.

**80 год** з дня нараджэння (1920) **В. Бандарчыка**, беларускага этнографа.

2 жніўня – **Дзень дэсантнікаў**

■ ВЫСТАЎКІ

# Выстаўка Алега Безляповіча

**АСТРАВЕЦ. У раённым Доме культуры прайшла выстаўка работ вучня 9—га класа Рэспубліканскага каледжа мастацтваў, што ў Мінску, Алега Безляповіча.**

Астраўчанін Андрэй вучыцца там з 6 класа. Паспрыяла гэтаму, хутчэй за ўсё, яго маці Ядвіга. У свой час перад таленавітай дзяўчынкай Ядзяй з далёкай вёсачкі таксама адкрываліся шляхі. Але так здарылася, што шанец не быў скарыстаны. Сёння маці бачыць сябе ў работах сына.

Рознапланавасць іх – скульптура, акварэль, гуаш, аловак – не перашкодзілі Алегу дабіцца добрых вынікаў. У творах юнага мастака найчасцей можна ўбачыць вобразы Астравеччыны. Тое, што адыходзіць назаўсёды. Панскі палац у Каменцы, былая гудагайская школа, дзе вучыўся бацька мастака...

Гэтая выстаўка – першая з тых, якія тут яшчэ пройдуць. У планах астраўчан запрасіць са сваімі творамі землякоў, сённяшніх мінчукоў: жывапісца Алега Драбышэўскага, скульптара Леанарда Пакульніцкага, графіка Андрэя Самуся, вільнянку, таксама ўраджэнку Астравеччыны, мастачку Бірутэ Куцкайтэ.

**Аддзел інфармацыі.**

© PDF: Kamunikat.org 2019
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019



# Грыбны сезон

**МАЛАДЗЕЧНА. Апошнімі тыднямі не хадзіў у лес па грыбы, мабыць, толькі лянівы — не зусім звычайнае для ліпеня надвор'е нарадзіла ў лясах мноства баравікоў, лісічак, абабкаў... Словам, надышоў грыбны сезон. Прычым, уражанне, што ўрадзілі грыбы паўсюдна.**

### Кошт грыбоў на калгасным рынку

Лісічкі ........................ 500 руб. (паўлітровы слоік)
Падасінавікі і падбярозавікі .... 600-1000 руб. (кучка, а ў кучцы 6–10 штучак)
Баравікі .................. 5000 руб. (малое вядро)
Баравікі ........ 9000-10000 руб. (вялікае вядро)

### Грыбы і радыяцыя

Праверкай грыбоў на ўтрыманне радыяцыйных рэчываў займаюцца цэнтр гігіены і эпідэміялогіі і санітарная лабараторыя на рэчавым рынку. Загадчыца санітарна–гігіенічнай лабараторыі цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Ларыса Чырвоная** гаворыць, што ёсць і першы выпадак перавышэння нормы: у грыбах з–пад вёскі Глінное, што на Вілейшчыне, зарэгістраваны паказчык у 404 бекерэляў у гадзіну пры норме ў 370.

Санітарная лабараторыя на рынку зарэгістравала перавышэнне нормаў двойчы: у грыбах з Лазаўца (баравікі) і Дамавая (розныя). Прычым дамаўскія грыбы трапляюцца, па звестках лабаранта Ларысы Войткі, штогод. Летась грыбы з радыяцыяй былі з–пад вёскі Пяршаі, што на Валожыншчыне, Заскавічаў, Мядзела.

### Нарыхтоўка

Ёй звычайна займаецца кантора каапнарыхтоўпрама.

– Сёлета нарыхтоўка яшчэ не пачалася, – гаворыць намеснік дырэктара канторы Тамара Клімашэўская. – Але да канца тыдня будуць распрацаваныя цэны на грыбы і пачнем іх прымаць. Асноўны від чакаемага ўраджаю – лісічкі.

Купляюць дары лесу і прыватныя асобы. За кілаграм лісічак яны плацяць 1,5 тысячы рублёў. Асноўны рынак збыту – нарыхтоўчыя канторы ў Гродне, Лідзе, Літве.

### Сёлета ў Беларусі грыбамі атруціліся 18 чалавек

МІНСК. Як паведаміў БелаПАН галоўны дзяржаўны санітарны ўрач **Валерый Філонаў**, сёлета ў Беларусі зафіксавана 18 выпадкаў атручвання грыбамі. 11 чалавек трапілі ў бальніцы Гродзенскай вобласці і 7 — Мінскай. Для параўнання: мінулагодні грыбны сезон адзначыўся 355 атручаннямі.

Паводле слоў галоўнага дзяржаўнага санітарнага ўрача, большасць пацярпелых атруціліся бледнымі паганкамі, якія яны прымалі за сыраежкі. Прыблізна праз 12 гадзін пасля ўжывання небяспечных для жыцця грыбоў, усе пацярпелыя адчувалі рэзкі боль у жываце, агульную млявасць. У бальніцах іх стан вызначалі як сярэднецяжкі.

Галоўны дзяржаўны санітарны ўрач папярэдзіў, што трэба захоўваць пільнасць і асцярожнасць пры зборы і ўжыванні грыбоў. Невядомыя грыбы лепей не збіраць наогул. Небяспеку ўяўляюць грыбы, набытыя па-за межамі рынкаў, бо яны не прайшлі адпаведную санітарную экспертызу. Трэба памятаць, што нават прыдатныя для ежы грыбы — старыя, або сабраныя ў экалагічна небяспечных месцах — могуць утрымліваць высокую канцэнтрацыю таксічных рэчываў і нашкодзіць здароўю. Калі ж атручвання пазбегнуць не ўдалося, трэба піць як мага больш вады і выклікаць «хуткую дапамогу».

**Юрый КАРПІЦКІ, Таццяна ПАПОВА, БелаПАН.**

### Радыеактыўная рызыка

МАЛАДЗЕЧНА. У аддзеле радыяцыйнай гігіены РЦГіЭ нам паведамілі: першыя радыелагічныя даследаванні грыбоў і ягад, сабраных у лясах Маладзечаншчыны і Вілейшчыны паказваюць, што абавязкова неабходна іх правяраць у лабараторыі.

Забруджанні радыенуклідамі выяўлены ў грыбах і чарніцах, сабраных у раёне вёсак Глінное і Шараі.

Па паведамленні спецыялістаў Маладзечанскага лясгаса, збор грыбоў і ягад у лясах, што прылягаюць да вёсак Хоўхлава, Броды, Сухапараўшчына, Задворцы, Ермакі, Шалыгі, дазваляецца толькі з абавязковым радыелагічным кантролем.

Даследаваннямі малака, грыбоў і ягад, праведзенымі перасоўнай радыелагічнай лабараторыяй Мінскага абласнога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі ў вёсках Хоўхлава, Задворцы, Лучанскія, Абухаўшчына, Шараі, выяўлена забруджванне толькі чарніц. Астатнія ўзоры былі "чыстыя".

Больш за ўсё назапашваюць радыенукліды тыя расліны, у якіх невялікая глыбіня залягання каранёў – да 5 сантыметраў. Гэта, перш за ўсё, грыбы.

Каранёвая сістэма ягад і большасці лекавых траў таксама размяшчаецца ў верхнім слаі глебы. З лясных траў больш за ўсё цэзію–137 назапашвае майнік, чыстацел, папаратнік, шчаўе, верас; з лясных ягад найбольш могуць быць забруджаныя журавіны, брусніцы, чарніцы; найменш – ягады рабіны.

Паколькі пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС многія лясы (і ў нашым рэгіёне таксама) аказаліся забруджаныя радыенуклідамі, таму трэба дастаткова асэнсавана ставіцца да таго, што, спажываючы неправераныя багацці лясоў, мы падвяргаемся дадатковай радыяцыйнай рызыцы.

Нагадваем, што радыелагічныя даследаванні ад насельніцтва ў Цэнтрах гігіены праводзяцца бясплатна.

Спецыялісты РЦГіЭ папярэджваюць: не набывайце ніякіх прадуктаў, у тым ліку, грыбоў і ягад, якія прадаюцца ў неўстаноўленых месцах і, як правіла, не маюць пацвярджэння іх якасці. Такая прадукцыя можа паслужыць прычынай атручванняў, інфекцыйных і іншых захворванняў.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота Юрыя Карпіцкага.

Такія баравікі можна купіць на калгасным рынку ў Маладзечне.

### Курсы валют НБ РБ

| | 20 ліпеня | 27 ліпеня |
|---|---|---|
| Долар | 740,00 руб. | 765,00 руб. |
| Нямецкая марка | 350,15 руб. | 368,82 руб. |
| Літ | 185,05 руб. | 191,27 руб. |
| Расійскі рубель | 26,67 руб. | 27,68 руб. |
| Злоты | 170,76 руб. | 178,45 руб. |
| ЕЎРА | 684,83 руб. | 721,36 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 980 – 990 руб. | 980 – 1050 руб. |

### Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 19.07 | 26.07 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 1250 | 1350 |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 4536 | 4687 |
| Сасіскі, 1 кг | 1508 | 1580 |
| Рыс, 1 кг | 340 | 340 |
| Грэчка, 1 кг | 560 | 560 |
| Цукар, 1 кг | 450 | 480 |
| Алей, 1 л | 700 | 700 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 380 | 380 |
| Маянэз, 250 г | 150 | 150 |
| Кава "Пеле", 100 г | 900 | 900 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 265 | 280 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 260 | 260 |
| Лімоны, 1 кг | 1000 | 850 |
| Апельсіны, 1 кг | 550 | 530 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 350 | 300 |
| Морква, 1 кг | 230 | 330 |
| Капуста, 1 кг | 220 | 100 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 800 | 800 |
| Масла, 1 кг | 1600 | 1600 |
| Тварог, 1 кг | 500 | 400 |
| Малако, 1,5 л | 250 | 200 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 500 | 500 |
| Бульба маладая, малое вядро | 700 | 500 |
| Морква маладая, 1 кг | | 400 |
| Абрыкосы, 1 кг | 1200 | 650 |
| Персікі, 1 кг | 1200 | 950 |
| Маліны, малое вядро | 7000 | 5000 |
| Чорныя парэчкі, малое вядро | 5000 | 4500 |
| Чырвоныя парэчкі, малое вядро | 1500 | 1200 |
| Агрэст, малое вядро | 3500 | 3000 |
| Чарніцы, малое вядро | 4500 | 4000 |
| Вішня, малое вядро | 3000 | 2400 |
| Сліва, малое вядро | 2500 | 2000 |
| Агуркі, 1 кг | 350 | 200 |
| Памідоры, 1 кг | 500 | 400 |
| Яблыкі, 1 кг | | 250 |

## Рыбны павільён павінен з'явіцца праз месяц

**МАЛАДЗЕЧНА. За апошнія месяцы на мясцовым калгасным рынку страціці і вярнулі свае месцы кілбасы і малочныя вырабы. Спрэчкі разгараліся з-за таго, што на рынку не было патрэбных умоў для гандлю згаданымі прадуктамі. За гэты тэрмін пачаў сваю дзейнасць кілбасны павільён, малаком гандлююць на ранейшым месцы, а вось з рыбай былі праблемы.**

Падчас апошняй размовы дырэктар калгаснага рынку **Аляксей Увараў** назваў тэрмінам увядзення рыбнага павільёна 15 ліпеня. Аднак у прызначаны час павільён не з'явіўся.

– На тэрыторыі рынку плануецца ўвесці 3 новыя павільёны: два для гандлю салам і адзін для рыбы, тлумачыць А. Увараў. – Першы павільён для сала ўжо змантіраваны і на гэтым тыдні яго прывязуць і ўстановяць. Натуральна, трэба будзе час, каб новае збудаванне належным чынам абсталяваць: падвесці электразабеспячэнне, ваду, каналізацыю.

На працягу месяца плануем прывезці рыбны павільён. З-за неналежнага фінансавання ўзніклі затрымкі з тэрмінамі выканання работ па будаўніцтве павільёна.

Цяпер на рынку ёсць два пункты, у якіх гандлююць салёнымі селядцамі, неўзабаве павінен з'явіцца і трэці. Пакуль прадаюць рыбу ў кіёсках. Зразумела, пасля ўвядзення спецыялізаванага павільёна, гэтыя пункты з рынку перанясуць.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ СПАЖЫВЕЦ

## Пры ўстаноўцы дамафонаў паклапаціцеся пра іх тэхнічны стан

**МАЛАДЗЕЧНА. У адным з нядаўна пабудаваных дамоў устанавілі дамафон. Праз год ён выйшаў са строю (з прычыны непастаяннага напружання ў электрасеткі).**

Справа ў тым, што спецыялізаваныя "дамафонныя" фірмы займаюцца толькі ўстаноўкай прыбораў. Яны не адказваюць за іх тэхнічны стан. А два блокі, якія зламаліся ў тым дамафоне, каштуюць па 80 тысяч кожны, і адрамантаваць іх можна толькі ў Польшчы. Таму не лішнім будзе дамаўляцца з гэтымі фірмамі аб тэхнічным абслугоўванні і плаціць кожны месяц невялічкую суму грошай (як за кабельнае тэлебачанне).

Яшчэ адна парада: калі ў вашым доме стаіць дамафон, памятайце, што перагрузкі і выкарыстоўванне трохфазных прыбораў могуць вывесці дарагі прыбор са строю.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ НАЗВЫ

## Завод аптычнага станкабудавання перайменавалі

**СМАРГОНЬ. Мясцовы завод аптычнага станкабудавання да свайго ранейшага названня атрымаў прыстаўку Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства і назву – Смаргонскі. Так вырашыла міністэрства прамысловасці. ЗАС цяпер называецца РУПСЗАС.**

Адпаведныя змены ўнесеныя ў назвы даччыных прадпрыемстваў і завода "Радыёдэталь" з Астраўца, які ўваходзіць у склад РУПСЗАСа.

**Тарэза КУМІШЧА.**

■ ТРАНСПАРТ

## Аўтобусны расклад давядуць да ладу?

МАЛАДЗЕЧНА. На дні інфармавання, што нядаўна прайшоў на "Электрамодулі", першы намеснік старшыні гарвыканкома **Яфім Ідэльчык** заначыў, што ў выканкоме разглядаецца некалькі варыянтаў рашэння пытання рэгулярнага руху гарадскіх аўтобусаў. Магчыма, будзе лепш павялічыць велічыню інтэрвалаў паміж імі, але павінна, каб раніцой у будніх дні гараджане ведалі: "хоць вайна, але аўтобус будзе".

**Аддзел інфармацыі.**

## Маладзечанская прамысловасць план не выканала

**МАЛАДЗЕЧНА. Першы намеснік старшыні гарвыканкома Яфім Ідэльчык гаворыць, што, па выніках першага паўгоддзя, аб'ём вытворчасці прамысловых тавараў склаў 98,7% ад аналагічнага перыяду мінулага года. Разам з тым, згодна з афіцыйнымі дадзенымі, Маладзечна дасягнула паказчыкаў 1990 года ў гэтай галіне яшчэ летась.**

Але 14 прамысловых прадпрыемстваў з 31 не выйшлі на ўзровень прагнозных паказчыкаў росту. Больш за тое, 11 з іх не дасягнулі нават мінулагодніх паказчыкаў.

Запазычанасць па зарплаце існуе на "Электрамодулі", "Спадарожніку", фабрыцы музінструментаў.

**Аддзел інфармацыі.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Знайдзіце вадзіцеля

**СМАРГОНЬ. За апошні месяц у раёне адбыліся 3 выпадкі наезду на людзей.**

Два з іх скончыліся смяротным зыходам, адзін – нанясенне пешаходу цяжкіх цялесных пашкоджанняў. Вадзіцелі з месцаў здарэння ўцяклі. Ні адзін з іх пакуль так і не знойдзены.

**Тарэза КУМІШЧА.**

## Бялізну пажарныя не выратавалі

**МАЛАДЗЕЧНА. Учора адна з гараджанак паставіла кіпяціць бялізну, а сама выйшла з дому па справах.**

Вада выкіпела, і бялізна пачала падгараць. Дым заўважылі суседзі і выклікалі пажарных.

Бялізна аднаўленню не належыць. Акрамя яе і тазіка, нічога з хатніх рэчаў не пацярпела.

**Аддзел інфармацыі.**

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019



■ ПЕРШАЯ ЛІГА

# Замест траўміраваных выходзяць мясцовыя

**23.07 Зорка-ВА-БДУ (Мінск) – Маладзечна 0:1 (0:1)**

Галоўны арбітр Кунцэвіч (Гродна), 600 гледачоў.

**Гол:** Бычкоўскі (24).

**Папярэджанне:** Рагуновіч.

Лукін (Лявончык, 30, Шаўроў Каўтуноўскі, 90)
Міхалёў
Крывіцкі Дараховіч (Мірановіч, 63)
Бычкоўскі
Кабельскі
Сысой Рагуновіч
Муравейнікаў
Рубацкі

На жаль, узмацніліся кадравыя праблемы ў "Маладзечне". Па-ранейшым, не гуляюць **Багайчук** і **Мігас**, а **Капленку** патрэбная паўторная аперацыя. Трэба прайсці поўнае медабследаванне **Тартоўскаму**. На адной з трэніровак зламаў нагу **Турчыновіч**, што не дазволіць яму выходзіць на поле больш за месяц. Ужо ў гэтым матчы маладзечанцы пачалі выкарыстоўваць фарм-клубаўцаў з "Забудовы". У мясцовых хлопцаў з'явілася рэальная магчымасць праявіць сябе на больш высокім узроўні.

І **Дараховіч**, і **Лявончык** адгулялі прыкладна гадзіну, што сведчыць пра недахопы функцыянальнай падрыхтоўкі. Сяргей распачаў сустрэчу на нязвыклай пазіцыі на краі, потым, калі сюды выйшаў Андрэй, перамясціўся "пад нападаючыя". Па сведчанні трэнера **Андрэя Шалімы**, хлопцы выглядалі зусім нядрэнна.

Увогуле, першы тайм быў роўны, а пасля перапынку, як ужо стала традыцыяй, нашы землякі "падселі". Аднак адзінага забітага гола хапіла для перамогі. Быў перавод мяча з левага фланга на правы **Міхалёву**, затым яго прастрэл у штрафную, дзе **Шаўроў** галавою скінуў мяч **Бычкоўскаму** для ўдару, што той і зрабіў як след.

Галявых момантаў было створана мала. Камандам даводзілася змагацца не толькі з супернікам, але яшчэ і з мячом, які не слухаўся на дрэнным полі сталічнага "Камвольшчыка". У маладзечанцаў найлепшую сітуацыю не выкарыстаў Міхалёў, былі блізкія да мэты Бычкоўскі і Дараховіч.

Хімік – ЗЛіН 1:3, Вейна-Днепр – Тарпеда 1:2, Граніт – Трактар 2:0, Нёман – Палессе 9:2, Керамік – Орша 3:1, Лунінец – Свіслач-Дах 1:0, Рагачоў-ДЮСШ-1 – Дынама-Юні 2:4.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ТРЭНЕР

# Галубко пакуль беспрацоўны

**Былы галоўны трэнер каманды "Азерцы" Уладзімір Галубко пакуль беспрацоўны. Ён расказвае, як гэта атрымалася:**

– Спачатку ў Глыбокім усё складвалася цудоўна. У турнірнай табліцы мы ішлі ўслед за лідэрам, "Дарыдай". Прэзідэнт клуба (дарэчы, старшыня мясцовай вертыкалі) цікавіўся футболам. Але фінансаванне залежала не ад яго. Грашовымі справамі займаліся два віцэ–прэзідэнты, якія ў футболе ведаюць няшмат. І ўзніклі фінансавыя цяжкасці, а затым арганізацыйныя. Сталічныя гульцы трэніраваліся са мною ў Мінску, а футбалісты з Віцебска прыязджалі на матчы ў "разабраным" стане. Кіраўніцтва клуба павінна было пасадзейнічаць таму, каб каманда трэніравалася разам. Але не пасадзейнічала. І я пакінуў "Азерцы". Дарэчы, гульцы–мінчане ўзялі з мяне прыклад. Некаторыя цяпер у "Дарыдзе", "Арбіце", адзін футбаліст перайшоў у "Смаргонь". Ці разлічылася з імі кіраўніцтва "Азерцаў", невядома. Асабіста я яшчэ не атрымаў грошы за красавік.

**Гутарыла Юлія ВАНСЛАЎ.**

# Кубак краіны

У 1/8 "Забудова" згуляе з мазырскай "Славіяй"

У 1/16 фіналу чысцінцы перамаглі наваполацкі "Нафтан-Дэвон" 1:0, а смаргонцы саступілі брэсцкаму "Дынама" 0:1. Вынікі астатніх матчаў 1/16 фіналу з удзелам каманд першай лігі і групы "А" другой лігі: "Зорка-ВА-БДУ" – "Тарпеда-Кадзіна" (Магілёў) 1:2 ("залаты" гол), "Рагачоў-ДЮСШ-1" – "Лакаматыў-96" (Віцебск) 0:2, "Дарыда" – "Дынама" (Мінск) 1:2 ("залаты" гол), "Азерцы" – "Нёман-Белкард" (Гродна) 1:4, "Граніт" – "Ліда" 1:0, "Тарпеда" – "Ведрыч-97" (Рэчыца) 1:2, "Верас" – "Белшына" (Бабруйск) 2:8, "Хімік" – "Тарпеда-МАЗ" (Мінск) 0:5.

Згодна з жараб'ёўкай, чысцінцы згуляюць у наступнай стадыі 2 красавіка ў Мазыры ў гасцях з аднаасобным лідэрам сёлетняга чэмпіянату ў вышэйшай лізе.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ДРУГАЯ ЛІГА

# Навічкі, якія забіваюць

**23.07 Забудова – Старыя Дарогі 4:1 (1:0)**

Галы: Макрыцкі (21), Філіпаў (53, 56), Лужынскі (75); (61-пен).

Склад: Мароз, Касцюкевіч, Нядзелька, Гулевіч, Івашкевіч (Дрозд, 86), Млечка, Антановіч (Садчанка, 82), Татун (Рыгаровіч, 72), Казяк, Макрыцкі (Абановіч, 88), Філіпаў (Лужынскі, 69).

Дзякуючы статусу фарм-клуба, чысцінцы выкарысталі **Андрэя Млечку** і навічка з Украіны, нападаючага **Максіма Філіпава** (1981 г. н.). А яшчэ дазаявілі мясцовых хлопцаў 1983 года нараджэння – абаронцу з маладзечанскай ДЮСШ **Сяргея Дразда** і нападаючага з Беразінскага **Генадзя Лужынскага**.

Хто яго ведае, ці забілі б навічкі тры галы з чатырох, ці была б падобная буйная перамога, ці правёў бы свой лепшы сёлета матч **Макрыцкі**, калі б не занадта слабымі аказаліся госці, і не прапісаўся ў Чысці злы рок іх галкіпера **Піскуна**. Летась гэты старадарожскі варатар прапусціў мяч, які быў адпраўлены даволі марудна метраў з трыццаці, стукнуўся літаральна перад ім у зямлю і пераляцеў па вялікай дузе ў вароты. Цяпер на сумленне Піскуна ляглі яшчэ два кур'ёзныя галы.

Забівалі каманды так. 21 хвіліна. **Івашкевіч** з левага фланга ад сярэдняй лініі выдаў класны дыяганальны пас у штрафную. Туды рвануўся, адразу пазбавіўшыся апекуноў, Макрыцкі. Піскун быў на мячы ўсё ж першы, але не ўтрымаў яго ў руках, і Віталю заставалася толькі спакойна паразіць вароты.

53 хвіліна. **Казяк**, расцягнуўшыся ў шпагат у цэнтры поля, аддаў перадачу на левы фланг **Антановічу**. Аляксей крыху прайшоў і прастрэліў у штрафную, дзе **Філіпаў** першым крананнем апярэдзіў абаронцу, а другім – пакінуў па-за справамі варатара.

56 хвіліна. Мяч з цэнтра поля паляцеў да Піскуна, а палохаць яго пабег Філіпаў. Галкіпер банальна прамахнуўся міма прадмета гульні, і нападаючы давёў лік да разгромнага.

61 хвіліна. **Касцюкевіч** збіў у штрафной некага з гасцей. Пенальці лідэру іх атакі ўдалося прабіць у самую правую дзевятку.

75 хвіліна. Госці ўсёй камандай перайшлі на палову поля "Забудовы". Чысцінскія абаронцы перахапілі мяч і адправілі да сярэдняй лініі ў напрамку вельмі мабільнага ў гэты дзень Макрыцкага. Віталь выйграў верхавую барацьбу і, па падказцы **Лужынскага,** проста адкінуў мяч галавой на чужую палову. Генадзь убягаў туды без апекуноў, ля ўвахода ў штрафную нават пераскочыў праз аднаго з усё ж дагнаўшых абаронцаў і не стаў абводзіць галкіпера, а расстраляў вароты ўдарам пад перакладзіну.

Галявых момантаў у матчы яшчэ было шмат. Тое, што білі госці, упэўнена парыраваў **Мароз**. Тое, што стваралі гаспадары, маглі рэалізоўваць Антановіч, **Татун**, Філіпаў.

Дамашняя перамога прыйшла ўслед за (хочацца верыць) заканчэннем унутрыкамандных праблем. Вырашыліся яны такім чынам, што не працуе тут ужо **Мікалай Мятліцкі**, а яго абавязкі выконвае **Андрэй Найдзіч**. Не вызначыліся пакуль са сваімі далейшымі планамі **Буглак** і **Д. Мятліцкі**. Кіраўніцтва прадпрыемства пакрысе аддае футбалістам запазычанасць; у прыватнасці, харчаванне гульцы могуць атрымаць "сухпайком" – натуральнымі прадуктамі.

**23.07 Акадэм-Славія (Мінск) – Смаргонь 0:0**

Склад: Пясецкі, Іваноў, Чарнуха, Якубіцкі, Юркевіч, Максіменка (Ал. Канапелька, 76), Відук, Селіванаў, Дзігілевіч, Карабінскі (Дукса, 57), Шпакоўскі (Апяцёнак, 88).

Навічкі і ў складзе смаргонцаў. З першай лігі прыйшлі абаронцы **Дзмітрый Іваноў** (Трактар) і **Алег Чарнуха** (Тарпеда), якія ў мінулых сезонах некалькі разоў тут гуляў, як за фарм-клуб. Напэўна, пераход гэтых футбалістаў азначае, што ў смаргонскага клуба проста добрая рэпутацыя.

Што тычыцца справаздачнай гульні, то **Андрэю Майсейчанку** зусім не спадабалася суддзейства віцебскай брыгады. Напрыклад, ужо на 9 хвіліне быў прызначаны пенальці, які не выкарыстаў Дзіковіч (прабіў міма). А яшчэ мелі добрыя моманты **Шпакоўскі** і **Максіменка,** ды арбітр чамусьці фіксаваў фалы ў атацы.

Дарыда – Лакаматыў 2:0, РШВСМ-Алімпія – Азерцы 3:0, Верас – Дынама-2 2:1, РВАР – Арбіта 3:1.

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Дарыда | 27 |
| 2. | РШВСМ-Алімпія | 25 |
| 3. | Верас | 23 |
| 4. | Лакаматыў | 22 |
| 5. | Акадэм-Славія | 21 |
| 6. | Азерцы | 20 |
| 7. | Смаргонь | 17 |
| 8. | Старыя Дарогі | 16 |
| 9. | Дынама-2 | 15 |
| 10. | РВАР | 14 |
| 11. | Арбіта | 11 |
| 12. | Забудова | 9 |

Бамбардзіры: Карасёў (Лакаматыў), Лагутка (Дарыда), Сачышын (РШВСМ-Алімпія) – па 7;...**Селіванаў** – 4.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ АНАЛІЗ

# 5-ачковы запас для нашых нервовых клетак

**МАЛАДЗЕЧНА. Адрыў мясцовага ФК у пяць ачкоў, бадай, нічога не значыць. Ну, возьме і не атрымаецца самы бліжэйшы матч 5 жніўня ў Лунінцы. Потым у запасе застанецца права толькі на адну нічыю. Так што трэба выйграваць, выйграваць і выйграваць. Напэўна, не радзей (11 матчаў з 15), чым у першым крузе. Як гэта рабіць з напаткаўшымі кадравымі і функцыянальнымі праблемамі, натуральна, ведаюць трэнеры. Балельшчыкам застаецца толькі перажываць ды падтрымліваць каманду хаця б у дамашніх матчах.**

Чым была адметная гульня "Маладзечна" — дык гэта колькасцю забітых мячоў. Прынамсі, без зламаўшага нагу **Турчыновіча** напачатку другога круга прыйдзецца значна складаней. Можа, раззабіваецца **Шаўроў**? Пры магчымым паслабленні атакі абароне давядзецца згуляць, прынамсі, не горш, чым у тых 14 матчах, калі ў суме было прапушчана 4 галы.

Цікава, што маладзечанцы прайгралі "Нёману", лунінчане – "Кераміку" і "Зорцы", а вось жодзінцы не дазвалялі сабе саступаць камандам з сярэдзіны табліцы, абодва іх паражэнні ад лідэраў.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. Маладзечна | 11 | 3 | 1 | 37-8 | 36 |
| 2. Лунінец | 9 | 4 | 2 | 24-8 | 31 |
| 3. Тарпеда | 9 | 4 | 2 | 24-11 | 31 |
| 4. Граніт | 9 | 1 | 5 | 22-18 | 28 |
| 5. Керамік | 8 | 3 | 4 | 27-18 | 27 |
| 6. Свіслач-Дах | 8 | 2 | 5 | 21-13 | 26 |
| 7. Орша | 7 | 4 | 4 | 24-20 | 25 |
| 8. Нёман | 6 | 4 | 5 | 27-20 | 22 |
| 9. Рагачоў-ДЮСШ-1 | 5 | 6 | 4 | 24-19 | 21 |
| 10. Дынама-Юні | 6 | 2 | 7 | 22-22 | 20 |
| 11. Трактар | 5 | 3 | 7 | 18-23 | 18 |
| 12. ЗЛіН | 4 | 5 | 6 | 9-11 | 17 |
| 13. Зорка-ВА-БДУ | 4 | 4 | 7 | 20-21 | 16 |
| 14. Хімік | 1 | 6 | 8 | 17-27 | 9 |
| 15. Вейна-Днепр | 1 | 2 | 12 | 13-40 | 5 |
| 16. Палессе | 0 | 1 | 14 | 9-59 | 1 |

Бамбардзіры: **Турчыновіч** – 9; Курыловіч (Керамік), Правалінскі (Орша), Шушкевіч (Зорка-ВА-БДУ) – па 8; Вадз. Байко (Керамік), Грыгор'еў (Хімік), Таран (Тарпеда), Яцыновіч (Рагачоў) – па 7; **Міхалёў** і іншыя – па 6.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**На гэтым тыдні гуляюць**

**30.07 16-00 Смаргонь – РВАР (Мінск)**
+0=1-4 1-7. У першым крузе 0:2 на выездзе.

**30.07 Дынама-2 (Мінск) – Забудова**
+0=0-1 1-2. У першым крузе 1:2 (Чарнель) дома.

■ ЛЕТАШНІ ФК "МАЛАДЗЕЧНА"

# Якая слабая была каманда

**Гэтая інфармацыйная падборка паказвае, дзе сёлета працягваюць кар'еру ўсе 33 футбалісты, што ў мінулым чэмпіянаце вышэйшай лігі выходзілі ў складзе "Маладзечна".**

Вышэйшая ліга: аснова – С. Кабельскі; запас – Ваўчок (абодва – Тарпеда-МАЗ), Рыжэўскі (ФК паліцыі, Латвія).

Першая ліга: аснова – Рагуновіч, Д. Кабельскі, Бычкоўскі (усе – Маладзечна), Новаш (Лунінец), Лабецкі, Мархель (абодва – Зорка-ВА-БДУ), Паўлавец (Тарпеда), Вольскі (Трактар); запас – Парываеў, Плют, Пілецкі (усе – Дынама-Юні).

Другая ліга: аснова – Дараховіч, Макрыцкі (абодва – Забудова), Дзіковіч (Акадэм-Славія), Пясецкі (Смаргонь), Федаровіч, Даніленка (абодва – Дарыда), Шамшорык (Бярэзіна), Васілеўскі; запас – Яўсеенка, Зрыбненка, Молаш (усе – РШВСМ-Алімпія), Дзербан, Жукоўскі (абодва – Азерцы).

Не гуляюць на рэспубліканскім узроўні Лебедзеў, Вайтовіч, Мурашка, Каторгін, Цыбулька, Сядун.

Як відаць, толькі **С. Кабельскаму** ўдалося загуляць у сапраўды моцнай (па нашых мерках) камандзе. Зразумела, няма прэтэнзій да **Рагуновіча**, **Д. Кабельскага** і **Бычкоўскага**, якія спрабуюць вярнуць "Маладзечна" да класу мацнейшых. Астатнія ж проста не могуць гуляць на тым узроўні. Нават перспектыўная моладзь (у першую чаргу, **Дараховіч**, **Макрыцкі**, **Молаш**, **Яўсеенка**, **Зрыбненка**), якую летась называлі светлым будучым маладзечанскай каманды, пакуль не надта сябе праяўляе.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ АМАТАРСКІ ФУТБОЛ

# Чэмпіянат Маладзечна

**МАЛАДЗЕЧНА. Гульні чарговага чэмпіянату горада праходзяць на стадыёне СШ №5 у панядзелак, аўторак і чацвер вечарам. Удзельнічаюць "Лакаматыў", "ЗЛМК", "Кірмаш", "Пуцеец", "ЗПМ/АВПС" (цяпер на базе АВПС створаны пажарна–аварыйны выратавальны атрад – ПАВА), "Колас", "Энергетык", "Фартуна" (былая "Тройка").**

Пасля двух тураў: 1. "Кірмаш" – 6 (розніца забітых і прапушчаных мячоў 10–2); 2. "Лакаматыў" – 6 (9–1); 3. "Пуцеец" – 4 (6–1). Лепшы бамбардзір – Алег Сітковіч ("Кірмаш") – 5 мячоў.

**Юлія ВАНСЛАЎ.**

■ АБЛАСНЫ ФУТБОЛ

# Летась былі мацнейшыя

Завяршыўся першы круг у чэмпіянатах Мінскай і Гродзенскай абласцей. Вынікі матчаў нашых землякоў, пра якія "РГ" раней не паведамляла:

"Металург" (Беразінскае): "Аўтазаводзец" (Жодзіна) 2:3 на выездзе, "Аўтамабіліст" (Нясвіж) 1:0 дома, ФК "Любань" 4:0 дома, "Спартак" (Смалявічы) 3:3 на выездзе, "Лявадзія" (Дзяржынск) 5:1 дома, "Меліяратар" (Капыль) 2:4 на выездзе, "Зорка" (Мар'іна Горка) 2:2 дома. З чатырнаццаццю ачкамі прадстаўнікі Маладзечанскага раёна займаюць восьмае месца.

"Вілія" (Вілейка): "Зорка" 2:5 дома, ФК "Любань" 1:6 на выездзе, "Гайна" (Барысаўскі раён) 1:6 на выездзе, "Камунальнік" (Клецк) 4:2 дома, ФК "Слуцк" 1:4 на выездзе, "Аўтазаводзец" 0:2 дома, "Аўтамабіліст" 1:5 на выездзе. Усяго чатыры ачкі, што адпавядае апошняму, дванаццатаму радку.

СКЗ (Смаргонь): "Алімп" (Шчучын) 5:0 дома, "Хімік" (Гродна) 3:3 на выездзе, СК "Ваўкавыск" 2:1 на выездзе, "Цукракамбінат" (Скідаль) 2:1 на выездзе, "Нёман-СДЮШАР-6" (Гродна) 2:4 дома, "Нёман-2" (Масты) 5:2 на выездзе, "Газавік" (Слонім) 1:2 дома, "Харчавік" (Казлоўшчына) 5:0 на выездзе. З 26 ачкамі смаргонцы знаходзяцца на чацвертай пазіцыі сярод трынаццаці каманд. На ачко больш у "Навагрудка" 29 – у "Хіміка", а лідзіруе "Нёман-СДЮШАР-6" – 33 ачкі.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019





# Паварушы мазгамі, №17

**Дабрыдзень!**
**Як заўсёды, разгадкі з мінулага нумару.**

Чароўны квадрат можа быць наступным:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 13 | 8 | 12 | 1 |
| 3 | 10 | 6 | 15 |
| 2 | 11 | 7 | 14 |
| 16 | 5 | 9 | 4 |

Крыж–складанчык:



## Двойчы герой

На гэты раз правільна адказалі **Жэня Булычаў, Іна Бурак, Андрэй Луцкі, Андрэй Ляхновіч, Алег Озер, Сяргей Скрыпцоў, Сяргей Смалонскі, Сяргей Стрэж, Юля Ягеловіч**. А пераможцам, якому выпаў шчаслівы нумарок аказаўся зноў (як і мінулы раз) маладзечанец з вуліцы Крынічнай **Алег Озер**. Знай маладзечанскіх! Алег, дарогу ў рэдакцыю ведаеш? Шыбуй за прызам!

## Дошка гонару





Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА

Пераможца 15-га і 16-га тураў нашай гульні маладзечанец Алег Озер. Двойчы герой.

## Зорка Давіда

Пранумаруйце колцы шасціканцовай Давідавай зоркі ад 1 да 12 так, каб сумы лікаў у чатырох колцах кожнага з шасці промняў былі роўнымі 26. Колцы 1 і 2 пранумараваныя.




## Чатыры шашкі

Падзялі дошку на 4 аднолькавыя часткі так, каб у кожнай з іх стаяла па шашцы.



## Наша пошта

“Добры дзень, Якім! Хапіла часу і на твае заданні. Але вельмі шмат у лесе грыбоў і ягад... Яны адбіраюць шмат часу. Вельмі хочацца атрымаць прыз ад “Рэгіянальнай газеты“, можа і пашчасціць... А калі не...

Будзеш, Якім, адгадваць і рашаць мае задачы???

Іна Бурак, Маладзечна.“

Шаноўная Іна! Вядома, буду рашаць. А калі я адзін не спраўлюся, паклічу каманду кемлівых.

Да наступнай сустрэчы!

**P.S.** Паважаны Іосіф Карасцік! Я прашу прабачэння за тое, што назваў Вас віляйчанінам. Але, мяркую, маладзечанец не будзе за гэта ў крыўдзе?

**Якім ПЯРЭЧКА.**

## Гараскоп 24 – 30 ліпеня



**Авен (21.03–20.04)**

Пасля напружанага перыяду – самы спрыяльны час для адпачынку. Не адкладвайце яго, таму што можаце знясілець. Тым, хто пакіне межы ўласнага агарода, гарантаваны легкадумны раман, які ні да чаго не абавязвае.



**Цялец (21.04–21.05)**

Зноў воплеск агрэсіўнасці і непрыняцця чужой думкі. Акрамя таго, захапленне алкаголем і халасцяцкімі вечарынкамі можа моцна нашкодзіць сямейным Цяльцам. На рабоце магчымая камандзіроўка, ад якой цяжка будзе адмовіцца.



**Блізняты (22.05–21.06)**

Некаторы спад у рабоце будзе абумоўлены абвастрэннем сямейных праблем. У той жа час, менавіта сям'я цяпер вам вельмі неабходная – як апора ў нейкай барацьбе з нядобразычліўцамі. Магчымы судовы разбор.



**Рак (22.06–23.07)**

Атрымаеце весткі здалёку, якія могуць прынесці нядрэнныя фінансавыя перспектывы. У цэлым жа, Ракі, якія займаюцца бізнесам, церпяць дробныя фіяска на розных франтах. Сканцэнтруйце сілы, памяняйце наваколле.



**Леў (24.07–23.08)**

Позні званок у адзін з дзён будучага перыяду ў адзін момант перанясе вас на некалькі год у мінулае. Вы будзеце занятыя толькі адноўленымі пачуццямі, і можаце вельмі проста закінуць справы. Спрыяльны час для адпачынку.



**Дзева (24.08–23.09)**

Не варта спыняцца, хаця многія адчуюць спакусу пасля дасягнення пэўных вынікаў дзянёк–другі адпачыць. Тыя, хто нават у выхадныя дні забыўся на сям'ю і дом і працягвае пачатае, дамогуцца поспеху.



**Шалі (24.09–23.10)**

Прычынай дэпрэсіі на гэтым тыдні можа зрабіцца надумлівасць або пусцяковая крыўда на блізкага чалавека. Пастарайцеся забыцца на гэта і куды–небудзь адправіцца з сябрамі. Дарэчы, запрашэнне пабавіць выхадныя на рыбалцы або паляванні чакайце ўжо 31 ліпеня.



**Скарпіён (24.10–22.11)**

Нягледзячы на “мёртвы” летні сезон, будучы перыяд не падасца вам сумным. Добрыя прапановы з-за мяжы на верасень-кастрычнік, але пачынаць перамовы патрэбна цяпер.



**Стралец (23.11–21.12)**

Зусім нечакана вас паставяць перад выбарам, пра які вы нават не думалі. Давядзецца як след задумацца, таму што ад правільнасці рашэння залежаць бліжэйшыя паўгода. Магчымая страта грошай або асабліва каштоўных рэчаў.



**Казярог (22.12–20.01)**

Стабілізуецца стан спраў у дзелавой сферы і на даляглядзе замаячаць грошы. Дома не ўсё добра. Калі вы патонеце ў справах, то можаце не заўважыць, як супраць вас інтрыгуюць самыя блізкія сябры. Абвастрэнне хранічных захворванняў.



**Вадалей (21.01–19.02)**

Новае сексуальнае захапленне можа захапіць цалкам. Але доўжыцца яно будзе нядоўга, а вось вяртанне да ранейшага можа быць праблематычным... Добрыя дні для адпачынку, арганізацыі вечарынак, падарожжаў.



**Рыбы (20.02–20.03)**

Вам варта рашуча разабрацца з партнёрамі як у бізнесе, так і ў асабістай сферы. Вашыя маналогі “пра сябе” ніхто не чуе, таму і расце канфліктны клубок. Часцей бывайце на траве, на палянах, ля вадаёмаў, гэта ўмацуе вашыя нервы.

## ■ КРЫЖАВАНКА

Ірына САХАЦКАЯ

**Па гарызанталях: 3.** Верхняя заканадаўчая палата парламента ў ЗША, Францыі. **6.** Апарат, прызначаны для атрымання соку з ягад і фруктаў, для пастэрызацыі кампотаў і марынадаў. **7.** Праём у сцяне будынка для святла і паветра. **8.** Прабацька чалавечага роду. **11.** Раствор смол у спірце, шкіпінары, алеі, якім пакрываюць паверхню прадметаў, каб надаць ім бляск. **15.** Марскі разбойнік. **18.** Мера масы каштоўных камянёў, роўная 0,2 г. **20.** Ганарыстасць, адсутнасць павагі да каго-небудзь, чаго-небудзь. **22.** Форма арганізацыі чаго-небудзь. **24.** Самаробная лямпа без шкла (разм.). **25.** Народнае эпічнае апавяданне пра падзеі мінулага або сучаснасці. **26.** Час, перыяд, тэрмін. **27.** Сум, туга, журба. **30.** Член радыкальнай партыі. **32.** Бакавы парастак расліны. **33.** Гандлёвае ці прамысловае прадпрыемства, вытворчае аб'яднанне. **34.** Адна з пяці рухомых канцавых частак кісці рукі, ступні нагі. **36.** Знак задыяка. **39.** Снарад з выбуховым апрэчывам, які закладаецца ў зямлю, пад ваду і інш. **40.** Вялікі марскі рак. **41.** Судна з двух карпусоў, злучаных між сабой агульнай палубай. **42.** Адасоблены сялянскі зямельны ўчастак разам з сядзібай уладальніка.

**Па вертыкалях: 1.** Магутнае судна, прыстасаванае для плавання ў ільдах. **2.** Наёмны сельскагаспадарчы рабочы ў памешчыцкай або кулацкай гаспадарцы. **4.** Грашовая адзінка ў Германіі, Фінляндыі. **5.** Укладзеная куды-небудзь сума грошай. **9.** Раздзел граматыкі, які вывучае спалучэнне слоў і будову сказаў. **10.** У спартыўных гульнях: вызначаны адрэзак часу, на працягу якога ідзе гульня. **12.** Цвёрды, са слаямі рознай афарбоўкі, мінерал. **13.** Гаручая вадкасць, якая атрымліваецца пры перапрацоўцы нафты. **14.** Драўляная дуга з кручкамі на канцах для нашэння вёдзер з вадой і іншых грузаў. **16.** Наўмысны зрыў работы якога-небудзь прадпрыемства. **17.** Той, каму адрасавана паштовае адпраўленне. **19.** Стаянка альпіністаў, турыстаў. **21.** Металічнае пакрыццё паверхні абразоў. **23.** Перапончатакрылае насякомае з джалам. **24.** Выпаленае месца ў лесе. **28.** Галоўны матыў музычнага твора. **29.** Вузкая паласа, лінія. **31.** Замкнёная выпуклая крывая лінія ў выглядзе яйка. **35.** Аптычная з'ява ў атмасферы, пры якой на гарызонце становяцца бачнымі адлюстраванні розных зямных прадметаў. **36.** Тое, што і рэўматызм. **37.** Рабочы, які абслугоўвае топкі паравых катлоў. **38.** Адзін з чатырох бакоў свету.

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў нумары 29**

**Па гарызанталях:** 1. Ганак. 6. Начальнік. 9. Крона. 10. Агава. 11. Анагр. 13. Пацук. 14. Мандаліна. 15. Полка.
**Па вертыкалях:** 2. Асака. 3. Альфа. 4. Марожанае. 5. Міласціна. 7. Аклад. 8. Палка. 12. Радэо. 13. Паляк.

Да ўвагі кіраўнікоў тэлестудый рэгіёна!
Калі вы хочаце, каб праграма вашага тэлеканала была надрукаваная ў дадатку да “Рэгіянальнай газеты” “Плюс TV”, патэлефануйце нам — 53841 ці 69667.
Рэдакцыя “РГ”.

НАПІТКІ у асартыменце
Напіткі газіраваныя
Напіткі з натуральнага фруктовага соку
Падлягае абавязковай сертыфікацыі.
Тэл/факс у Маладзечне 31575, 32244

ЗАО «ОКСНА» ПРЕДЛАГАЕТ:
– изготовление рекламных видеороликов;
Лиц. №260 Мин. культуры РБ от 10.12.1996 до 20.10.2001 г.
– распространение рекламы и частных объявлений среди абонентов кабельного телевидения г. Сморгонь (более пятнадцати тысяч человек);
Свид. №89 Госкомиссии по радиочастотам РБ от 5.05.1998 г.
– ремонт импортной теле-, видео-, аудиотехники;
Лиц. №1294 Минпром РБ от 5.02.1999 до 5.02.2004 г.
– монтаж и установка антенн спутникового телевидения.
Лиц. №10477 Мин. Арх. и стр. РБ от 30.03.1999 до 30.03.2004 г.
Справки по тел. в СМОРГОНИ 34009, 31706.

Фірме «АўтаПрамПадшыпнік» патрабуецца ІНЖЫНЕР ПА МАРКЕТЫНГУ (вопыт работы ў камерцыйнай структуры).
Тэл. у Маладзечне 53941, 41680, 52872.

Арганізацыя выканае ЛЮБЫЯ ВІДЫ БУДАЎНІЧА-МАНТАЖНЫХ РАБОТ (аддзелачныя, сантэхнічныя, дахавыя, мантажныя, а таксама высотныя работы).
Тэл. у Маладзечне 60933, 67560.
Ліц. №10653 Мін. арх. і буд. ад 29.04.1999 да 29.04.2004 г.

Запрашаем! Магазін «Елена» (каля харчовага рынку ў Маладзечне)
ТАВАРЫ ДЛЯ ШКОЛЫ ў асартыменце.
Тэл. у Маладзечне 76043.

РЕАЛИЗУЕМ КИСЛОРОДНЫЙ РУКАВ ДИАМЕТРОМ — 6, 9, 12 мм².
Тэл. у Маладзечне 65642, 68262.

Магазін «Будаўнічыя матэрыялы» (арочнае збудаванне па вул. Будаўнікоў, 15 “В”)
аказвае паслугі па рэзцы шкла
Тэл. у Маладзечне 68161.

Арганізацыя прадае СТУЖАЧНУЮ ПІЛАРАМУ маркі ЛГУ-51М у камплекце са станкамі: тарцовачным, заточным, развадным.
Тэл. у Маладзечне 30078, 60490.

BelFort
• БУМАГА (65,80 г/м²)
• ЗАПРАВКА КАРТРИДЖЕЙ К ПРИНТЕРАМ И КОПИРОВАЛЬНОЙ ТЕХНИКЕ
• СЕРВИСНОЕ ОБСЛУЖИВАНИЕ
МОЛОДЕЧНО, УЛ. ГАЛИЦКОГО, 8, 4 эт.
ТЕЛ: 6-00-22

МУКА ЖЫТНЯЯ
г. Барысаў, 45 кг па цане 7830 рублёў.
Тэл. у Маладзечне 60495, 60331.
Оптам (больш за 10 мяхоў) — цана 7605 рублёў.
Тэл. у Маладзечне 63373, 63376.
Сістэма скідак,

ЗАТ «Бізнес-Цэнтр» – Цэнтр падтрымкі прадпрымальніцтва ў Маладзечне прапануе:
КАНДЫТАРСКІЯ ВЫРАБЫ вытворцаў РБ;
НАПІТКІ ГАЗІРАВАНЫЯ ў асартыменце вытворчасці “Вейнянская крыніца”;
МАЛАКО ЗГУШЧАНАЕ ж/б 0,25;
ТУШОНКА З ЯЛАВІЧЫНЫ ж/б 0,35.
Тэл. у Маладзечне 52511, тэл/факс 60239.
Падлягае абавязковай сертыфікацыі.

Арганізацыя рэалізуе ПОМНІКІ з граніту, мармуру, мармуровай крошкі. Фотамедальёны. Мастацкае афармленне. Дастаўка. Устаноўкі.
Маладзечна, В. Гасцінец, 68б.
Тэл. у Маладзечне 53444.

Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)

Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ігар ВЕЙС, фірма «ФАВАРЫТ».
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ**.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах.
Тыраж **7000 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска).
Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі.
**№30 (275) 28.07.2000**. Друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. №.
Падпісана ў друк у 13.00 27.07.2000

**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41.**
**E-mail: region_news@irex.minsk.by**
**http://regionnews.promedia.minsk.by**

**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**
**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** гасцініца “Вілія”, капіравальны цэнтр “Парус”. **Тэл. 55194, 55284.**
**Смаргонь:** Рэдакцыя "Новой газеты Сморгони", вул. Танкістаў, 8. **Тэл. 33077, 34353.**

Разліковы рахунак №3012164030006 у аддзяленні Белзнешэканамбанка ў Маладзечне, код 211, атрымальнік рэдакцыя «РГ»

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019